# 50-годдзе з дня выхаду першага нумара „Нашай Нівы"

(Працяг са стар. 5).

У гэтым-жа самым годзе ў рэдакцыю газеты, пісала незадоўга перад сваёй смерцю, польская пісьменніца Марыя Канапніцкая, якая прасіла прыслаць ёй матэрыялы аб жыцці беларусаў, *«...бо цікавілася імі і сумавала над тым. што народ наш такі цёмны, такі бяздольны».* (Глядзі: «Наша Ніва» 1910 № 40. Артыкул — некралог прысвечаны Марыі Канапніцкай»).

У 1912 годзе, у сакавіцкім нумары польскага часопіса «Свят Славяньскі» у артыкуле «Маладая Беларусь», аб «Нашай Ніве» пісаў польскі літаратурны крытык В. Вэгнеровіч, які назваў беларускую газету адзіным органам адраджэнскага руху ў Беларусі. Ён асабліва падкрэсліваў цяжкія абставіны, у якіх у той час знаходзілася газета. Вэгнеровіч пішучы аб цяжкасцях, з якімі сустракалася «Наша Ніва», меў на ўвазе царскую рэакцыю ў 1912 годзе. Польскі крытык падкрэсліваў яе жорсткасць у адносінах да беларускага народа.

Адносіны двух вялікіх прагрэсіўных пісьменнікаў рускай і польскай літаратуры Максіма Горкага і Марыі Канапніцкай да беларускага народа, а таксама голас Вэгнеровіча аказалі вялікую маральную дапамогу ў справе адраджэння яго дэмакратычнай культуры. Маючы такіх саюзнікаў, рэвалюцыйна - дэмакратычныя пісьменнікі смялей выступалі супроць сваіх ідэалагічных ворагаў, якія выкарыстоўваючы «Нашу Ніву», імкнуліся адцягнуць іх увагу ад тагочаснай рэвалюцыйнай рэчаіснасці, ад праўдзівага адлюстравання гаротнага жыцця працоўных мас краіны.

У 1913 годзе ў «Нашай Ніве» разгарнулася паleміка па эстэтычных пытаннях — аб адносінах беларускай літаратуры да сучаснай ёй рэчаіснасці. Былі закрануты важныя пытанні аб прызначэнні паэзіі, аб яе змесце, аб рэалізме і народнасці ў літаратуры. На старонках беларускай газеты ў гэтых спрэчках сутыкнуліся пісьменнікі - дэмакраты з буржуазнымі нацыяналістамі. За разыходжаннямі па асноўных пытаннях прызначэння літаратуры, выявіліся супярэчнасці класавых пазіцый правага і левага крыла газеты. Правае крыло, якое фактычна ўзначальвала газету, імкнулася манапалізаваць яе публіцыстычны аддзел, штурхнуць беларускую літаратуру на шлях безідэйнасці, на шлях абыякавых адносін да карэнных, хвалюючых пытанняў жыцця народа. Нацыяналістычны крытык В. Ластоўскі быў прадстаўніком гэтых поглядаў. Гэта ён у 1913 годзе ў артыкуле «Сплочвайце доўг», змешчаным у 26 і 27 нумарах «Нашай Нівы», дакараў пісьменнікаў - дэмакратаў за тое, што яны ўзнімалі сацыяльную тэму, што вельмі скардзіліся на становішча беднаты, забываючы аб прыгожасці беларускай прыроды, якой захапляюцца нават іншаземцы. Такім чынам, правадыр беларускіх буржуазных нацыяналістаў, якому не падабаліся поўныя грамадзянскага суму журботныя песні Купалы і Коласа, прапаведваў абыякавасць да жыцця народа, больш таго, быў прыхільнікам прымірэння з самадзяржаўнай рэакцыяй. З адказам Ластоўскаму выступіў Я. Купала, які ў артыкуле «Чаму плача песня наша?», змешчаным у гэтым-жа самым годзе ў 30 нумары «Нашай Нівы», сфармаваў свой погляд на прызначэнне сапраўднай літаратуры. Купала ў словах поўных шчырага гневу і абурэння, пытаўся: «Вот гэтыя паэты ўсасаўшы з малаком абнядоленых і абняволеных матак усё гора жыцця Беларусі дэмакратычнай, — ці-ж маглі ў першых сваіх словах толькі апяваць харасТво сваёй бацькаўшчыны, не заглянуўшы спачатку на рэальны побыт яе сыноў?» Купала прыходзіць да вываду, што сапраўдны грамадзянскі паэт павінен быць актыўным удзельнікам пераўтварэння сацыяльнай рэчаіснасці, змагаром за праўдзівую рэалістычную літаратуру, якая-б стаяла на варце інтарэсаў народа. Гэта спрэчка на старонках «Нашай Нівы» мела вялікае значэнне для развіцця нашай літаратуры. Яна дапамагала ёй у пошуках новых дарог, новых ідэй, якія-б спрыялі народу ў яго барацьбе супроць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечання.

На працягу свайго 9-гадовага існавання «Наша Ніва» змяшчала многія творы сучасных ёй беларускіх пісьменнікаў. З многімі прасякнутымі рэвалюцыйнымі імкненнямі, дакастрычніцкімі творамі Купалы і Коласа беларускі чытач пазнаёміўся ўжо ў першых нумарах газеты. Так, у 1907 годзе былі змешчаны: «Бунт», «Плытнікі», «Горкая доля» — Коласа, «Касцу», «З песень беззямельнага», «Нашто» — Купалы. У асобных нумарах газеты можна было знайсці вершы Цёткі: «З новым годам», «Вясковым кабетам», «Скора прыдзе вясна» і іншыя. Тут змяшчалі свае творы К. Буйла, А. Журба, М. Багдановіч. «Наша Ніва» у кожным нумары змяшчала паведамленні палітычнага характару з Расіі і з усяго свету, сельскагаспадарчыя парады для сялян, звесткі аб жыцці беларусаў у краіне і за межамі, шматлікія карэспандэнцыі.

Некаторыя нумары былі прысвечаны розным гадавінам і юбілейным датам. Чытач часта сустракаў на старонках «Нашай Нівы» артыкулы на літаратурныя, культурныя і гаспадарчыя тэмы. Газета мела аддзел жартаў. Нямала месца прысвяціла «Наша Ніва» польскім справам. У асобных нумарах знаходзім артыкулы, у якіх адчуваецца глыбокая сімпатыя для культурных дасягненняў брацкага польскага народа.

У шматлікіх нумарах газета друкавала пераклады твораў выдатных польскіх пісьменнікаў: А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, Э. Ожэшко, М. Канапніцкай і іншых, а таксама артыкулы аб беларуска - польскіх культурных сувязях у мінулым. У 1909 годзе ўвесь свет адзначаў тры вялікія гадавіны — сто год з дня смерці К. Дарвіна, Ю Славацкага і Ф. Шапена. У гэтым-жа годзе, у 13 і 14 нумарах газеты быў змешчан артыкул пад загалоўкам «Тры гадаўшчыны». У ім давалася вельмі прыхільная ацэнка творчай дзейнасці польскага паэта Юлія Славацкага, які як адзначыў аўтар артыкула, у «Ангелім» і «Кардыяне» апяваў мукі свайго прыгнечанага народа. У творах Славацкага аўтар адчувае заклік да лепшай долі. Фрыдэрыка Шапена называе ён славай польскага народа і падкрэслівае яго вялікую таленавітасць. У наступным годзе (у 20 нумары газеты) надрукавана некралог, прысвечаны Элізы Ожэшко (Э. Ожэшко памёрла 6.5.1910 г.). У ім адзначаецца, што большая колькасць яе твораў непарыўна звязана з беларускай глебай. У іх польская пісьменніца прысвяціла нямала месца жыццю заганага беларускага мужыка. У канцы артыкула чытаем: *«За мілацсь да нашай роднай зямліцы, за тое, што ў мужыку-беларусе Ожэшкова бачыла чалавека і як чалавека шанавала яго, няхай гэта зямліца ёй лёгкай будзе!».*

У 40 нумары маем артыкул-некралог аб М. Канапніцкай, аб якім мы ўжо ўспаміналі. Пасля яго, змешчаны Купалаўскі пераклад верша Канапніцкай «Пара». У наступным нумары надрукаваны вельмі прыгожы верш Купалы «Памяці Марыі Канапніцкай», у якім адчуваецца глыбокая любоў яго аўтара да польскай дэмакратычнай пісьменніцы. У сувязі з 25 гадавінай смерці Вінцука Дуніна - Марцінкевіча ў 48 нумары газеты маем вельмі цікавы артыкул прысвечаны яго памяці. У ім аўтар падае звесткі аб адносінах Дуніна - Марцінкевіча да польскага пісьменніка Сыракомлі і кампазітара Манюшкі, з якім ён сябраваў.

Апошнія гады перад вайной тэхнічнае рэдактарства «Нашай Нівы» ўзяў на сябе Я. Купала, а сакратаром быў З. Бядуля. Апошні нумар газеты выйшаў 7 жніўня 1915 года. Да Вільні набліжаўся фронт першай імперыялістычнай вайны. У 1920—21 г. г. была зроблена спроба ўзнавіць газету, але тагочасныя ўмовы ваеннай цэнзуры перашкодзілі гэтай спробе.

Сёння, калі глядзім на «Нашу Ніву» з перспектывы 50 гадоў, калі перагортваем яе пажоўклыя старонкі, трудна не падумаць з вялікай удзячнасцю аб тых яе супрацоўніках, якія ў тыя змрочныя часы пракладалі шлях дэмакратычнай беларускай думцы. Дзевяць гадоў існавання газеты — гэта дзевяць гадоў таго перыяду, у якім рос і мужнеў беларускі працоўны люд, у якім вырашаліся лёсы яго гісторыі. Таму смела можам сказаць, што часткай гэтай гісторыі з'яўляецца «Наша Ніва», неад'емнай часткай жыцця беларускага народа, яго працы і рэвалюцыйнай барацьбы.

Мгр. М. КАНАПАЦКІ

## 17 лістапада — міжнародны дзень студэнта



*На здымку: Дэлегацыі польскай, нямецкай, чэхаславацкай і албанскай моладзі на Плошчы Маркса ў Берліне ў часе III Сусветнага З'езда маладых барацьбітоў за мір. Фото — ЦАФ.*

А. ОМІЛЯНОВІЧ

# ПАРТЫЗАНЫ

Час паволі заціраe ў памяці і прысыпвае пылам забыцця падзеі, якія мелі месца 12—13 год таму назад. Часамі аднак у доўгія, асеннія ці зімовыя вечары збіраюцца ля цёплай печы старыя партызаны і тады распачынаюцца апавяданні аб пераж ытай вайне.

Колькі-ж гэта геройскіх подзвігаў пераплятаецца ў іх апавяданнях. Гэта-ж нядаўныя гісторыі. Слухаючы гэтых расказаў чуецца пошум Белавежскай пушчы, перад вачыма паўстаюць партызанскія зямлянкі і абозы, партызаны, якія скрадваючыся ўзрывалі вайсковыя транспарты. У такія хвіліны чалавек не дыхае і толькі слухае і слухае, стараючыся нічога не прапусціць.

Хадзем, дарагі чытач, у Дубіны, Гайнаўскага павета, да былых партызанаў атрада імя Дзяржынскага.

Пазнаёмцеся з імі: АЛЯКСАНДР ЮРЧУК — былы камандзір атрада; РЫГОР САЕВІЧ з Навасадаў — былы шэф штаба атрада; СЦЯПАН КОЙЛА, ГАННА КОЙЛА, ЯНОЎСКІ з Пераходаў — партызаны атрада.

Прысядзем ля цёплай печы і паслухаем іх апавяданняў.

Аляксандр Юрчук паволі закурыў і пачаў расказваць:

Быў 22 чэрвень 1941 год — нядзеля. Ледзь-ледзь займаўся золак на небе. За пушчай разлівалася чырвань узыходзячага сонца. У гэтую прыгожую, урачыстую раніцу ад захаду пачуліся нейкія гукі. Пачаткова яны былі глухімі, невыразнымі быццам-бы надыходзіла бура, потым яны рабіліся ўсё мацнейшымі, магутнейшымі, пачалі набліжацца. Людзі выганяючыя на пашу каровы затрымоўваліся здзіўленыя. Прыслоньвалі рукамі вочы, ды са спалохам узіраліся на захад.

Грукат адчуваўся і зверху і знізу — з зямлі. Недзе далёка загучала артылерыя.

На чыстым небе паявіліся перш маленькія, чорныя, ледзь прыкметныя пункты самалётаў, потым узрасталі ў вачах, ляцелі ключамі, памалу, грозна, злавесна, гінулі на гарызонце за пушчай, але зараз паяўляліся новыя эскадры, ключы... Людзям здавалася, што гэта нейкая саранча ўзраілася недзе і выляцела ўгару закрываючы спакойнае неба.

Мясцамі на гарызонце пад самае неба ўскалочваліся стаўбы дыму і агню. А потым, адна па другой наступалі падзеі. Дарогі запоўніліся ўцякачамі. Нельга было разабрацца. Усюды было поўна войска і насельніцтва, адна мітусня, перапужанасць і блытаніна. Фашысты заўзята бамбардзіравалі масты, жалезнадарожныя станцыі, гарды і вёскі.

Бязладна адступала Чырвоная Армія. Неўзабаве Немцы занялі Гайнаўку і навакольныя вёскі Праз Дубіны і Новасады праехалася галоўная паходная браняносная застава. Людзі са спалохам узіраліся на бурых фашыстаў. Па рэйках непадалёку Новасадаў ехала ў бок Нарві нямецкая дрызіна, а полем у тым часе трох байцоў, з адной толькі вінтоўкай, прабіраліся ў пушчу. Нястрымаўся адзін з іх, стаў на калена, узяў на прыцэл гітлераўца сядзячага на дрызіне. Пачуўся стрэл, фашыст кульнуўся ў паветры і рынуў ілбом на рэйкі...

Байцы пайшлі ў пушчу. Гітлераўцы падцягнулі гарматы аж пад самыя Новасады і пачалі закідваць снарадамі вёску. Загарэліся хаты. Палі першыя ахвяры. Фашысты набралі заложнікаў. У вёсцы паставілі нямецкі гарнізон. У лясных нетрах пушчы збіралася ўсё больш і больш разбіткаў з Чырвонай Арміі. — Прайшло некалькі дзён — працягваў расказ Юрчука Сцяпан Койла. Людзі пачалі ачухвацца.

І вось асцярожна пачалі мы сустракацца з сабой.

Вырашылі мы склікаць патаемна сход і абмеркаваць першыя заснаванні нашай арганізацыі. У які дзень гэта было — не магу зараз успомніць, памятаю толькі, што быў ужо канец чэрвеня 1941 года. Вечарам маючы на ўвазе тое, каб ніхто не ўбачыў і ні сцяміў у чым справа, мы пачалі прабірацца ў сушню Барыса Яканюка. Прыйшлі: Юрчук, Верамюк, Міхальчук, прыйшлі і іншыя нашы супольнікі. Уважліва, па цёмку прыселі ўсе ў кучку і пачалі гутарыць аб падзеях, вайне.

(Працяг будзе)

